# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 26 (2220)

27 чэрвеня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8кап.




# УПЕРШЫНЮ ЗА ТЫСЯЧУ ГАДОЎ

## ПАТРЫЯРХ МАСКОЎСКІ І ЎСЯЕ РУСІ АЛЕКСІЙ ІІ У БЕЛАРУСІ



**З 15 па 19 чэрвеня ў Беларусі з візітам знаходзіўся Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II. Першасвяцíцельскае падарожжа Найсвяцейшага Патрыярха пачалося са сталіцы, з Мінска, з плошчы Перамогі, дзе быў ускладзены вянок з надпісам на стужцы: "Вызваліцелям зямлі Беларускай вечная памяць. Алексій II. Патрыярх Маскоўскі і ўсяя Русі". Прайшло яно праз буйнейшыя епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы — Мінскую, Магілёўскую і Гомельскую. Найсвяцейшы Патрыярх наведаў мясціны, якія найбольш пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.**

**У Крыжовай царкве Мінскай мітраполіі, асвячонай у гонар Сабора Беларускіх святых, Найсвяцейшы Патрыярх адправіў набажэнства. Візіт Алексія II быў прымеркаваны менавіта да святкавання Сабора Беларускіх святых. Яго Святасць пакланіўся праваслаўным святыням нашай Бацькаўшчыны — Мінскай і Жыровіцкай цудатворным іконам, якія знаходзяцца ў кафедральным Свята-Духавым саборы сталіцы і Свята-Успенскім саборы Жыровіцкага манастыра.**

**Патрыярх Маск[illegible]скі і ўсяе Русі нанёс візіт старшыні Саве[illegible]ністраў БССР В. Кебічу і намесніку стар[illegible]ні Вярхоўнага Савета рэспублікі В. Шаладонаву.**

**На прэс-канферэнцыі Найсвяцейшы Патрыярх сказаў цёплыя і прачулыя словы пра наш народ:**

**— Самае моцнае ўражанне, якое атрымліваеш пры знаёмстве з рэспублікай, — сустрэчы з людзьмі. Гэта асноўнае багацце Беларусі. Паўсюдна, дзе былі, мы бачылі дагледжаныя палі, што сведчыць пра руплівасць беларусаў, іх клопат аб заўтрашнім дні. Для мяне духоўным абагачэннем з'явілася датыканне да шматпакутнай Беларускай зямлі. Менавіта тое, што гэта зямля бачыла шмат гора, яна адкрытая для асвячэння, чакае яго і гатова прыняць у сябе гаючую ласку Боскую.**

**Гэта было першае наведанне Беларускіх земель Вышэйшым іерархам Рускай Праваслаўнай Царквы з часоў хрышчэння Русі.**



*МІЛАСЭРНАСЦЬ І МАРАЛЬНАЕ ЗДАРОЎЕ ГРАМАДСТВА*

# ПАМІЖ СНОМ І ЯВАЙ

**Яшчэ зусім нядаўна мы звонка і бадзёра спявалі пра тое, што "за столом никто у нас не лишний". Не ведаць было жабракоў на цвінтарах ля касцёлаў і цэркваў і бяздомных на гарадскіх задворках і сметніках, не заўважалі мы ні гора калек, ні адзіноты старых, што аддалі сваю маладосць і здароўе калгасу, а цяпер дажываюць век у заняпалых вёсках. Грамадству ўбілі ў галаву, што "молодым везде у нас дорога, старикам везде у нас почет". І мы сапраўды верылі гэтай прапагандысцкай ідыліі. Ды раптам перабудова вывела на грамадскі савецкі цвінтар беднага чалавека з працягнутай за міласцінай рукой, бадзягу-бомжа, інваліда, што просіць літасці ў здаровых і сытых. Раптам выявілася непрывабная карціна сацыяльнай няроўнасці за нашым грамадскім сталом, што завецца сацыялізмам: адны сёрбаюць поўнай лыжкай, а іншым дастаецца чэрствы акраец хлеба.**

— Не раптам, гэтак было ў нас заўсёды: былі людзі ўбогія, сацыяльна не абароненыя, людзі, якія мелі патрэбу і ў матэрыяльнай дапамозе [illegible] звыклай спагадзе, — перак[illegible]а Валянціна КОЛАСАВА, пер[illegible]ы намеснік старшыні Беларускага фонду міласэрнасці і здароўя, якая згадзілася даць інтэрв'ю газеце "Голас Радзімы".

— Такія праблемы былі ў нашым грамадстве і [illegible]й, толькі мы іх не хацелі заўв[illegible]ць. А цяпер сама атмасфера ў краіне падштурхнула людзей да таго, што яны перасталі хаваць сваю беднасць. Калі ўжо дзяржава працягвае руку, молячы аб дапамозе ўвесь свет, дык што саромецца яе "шчасліваму" грамадзяніну. Жыццё трэба бачыць такім, якое яно ёсць. Што ж нам маляваць рай, калі сёння ў Беларусі 400 тысяч інвалідаў, кожны пяты — пенсіянер, паўтара мільёна пенсіянераў маюць пенсію толькі да 100 рублёў. А пражытачны мінімум пад 200 рублёў, калі не болей.

Што гэта — нармальна, калі чалавек больш за 10 год чакае інвалідную каляску і бачыць свет толькі праз акно свайго пакойчыка? Такім людзям даўно трэба было працягнуць руку дапамогі...

*—...І вось цяпер людзям бедным, адзінокім, пакрыўджаным лёсам руку дапамогі працягнуў Фонд міласэрнасці і здароўя. Валянціна Уладзіміраўна, ваша арганізацыя ўжо існуе два з паловай гады, і не проста існуе, энергічна дзейнічае. Дзякуючы вам, у людзях абуджаюцца забытыя, вытрауленыя добрыя пачуцці чалавечнасці, гуманізму, узаемнай падтрымкі. Ды і само паняцце міласэрнасці, якое мы раней стасавалі толькі да капіталістычнага грамадства, адрадзілася ў нашай краіне з узнікненнем фонду. Скажыце, на каго распасціраецца ваша апека?*

— Каму мы дапамагаем? Перш-наперш адзінокім састарэлым людзям, якія на сконе веку засталіся сам-насам са сваімі жыццёвымі праблемамі, людзям з мізэрнай пенсіяй, без сям'і, без дзяцей. А такіх — 60 тысяч і роўна палавіна з іх не ў стане самі сябе абслужыць, даглядзець. У Фонд міласэрнасці прыходзяць і тыя, хто некалі аступіўся і скалечыў сваё жыццё. Выходзіць такі чалавек на волю, і адразу перад ім паўстае дылема: на работу не бяруць, а есці хочацца, або з голаду памерці, або зноў красці. Вядома ж, мы ім дапамагаем стаць на ногі. Ну і інвалідам — адзінокім і сямейным інвалідам. А наогул цяжка нават вызначыць кола людзей, каму фонд дапамагае: кожнаму, хто да нас пастукаецца.

Адным мы аплачваем кватэру, другім —пуцёўку у санаторый, трэцім выдаём бясплатна талоны ў сталовую. А ў Мінску яшчэ год назад з дапамогай нашага малога прадпрыемства — Цэнтра інвалідаў мы арганізавалі харчаванне адзінокіх людзей, якія абсалютна бездапаможныя. Страву прывозяць ім проста дадому і кормяць.

*— Валянціна Уладзіміраўна, вы назвалі лічбу: 400 тысяч інвалідаў у Беларусі. Многім з іх патрабуюцца каляскі...*

— На жаль, і па сёння ў нас няма дакладных даных, колькім з іх патрабуюцца каляскі: не вядзецца такая статыстыка!..

*— Але я ведаю, што гэтую пякучую праблему вы ўсё ж зрушылі з месца.*

— Гэта быў найпершы крок у дзейнасці фонду, першая акцыя міласэрнасці. Мы мелі ўсяго 200 тысяч рублёў на рахунку і адразу ж 124 тысячы выдаткавалі на тое, каб купіць дакументацыю на вытворчасць інвалідных калясак. Нам так хацелася, каб чалавек адчуваў сябе чалавекам: сеў у каляску, выехаў на вуліцу, проста мог пад'ехаць з пакоя, у якім ляжаў, у другі пакой, каб яму стаў шырэйшым свет. І ведаеце, зараз праблема з калясками ў нас вырашаецца лепш, чым у іншых рэгіёнах краіны. Кожны, хто мае патрэбу, ужо не чакае гэтую каляску гадамі, а, звярнуўшыся ў Фонд міласэрнасці, можа атрымаць яе амаль што без чаргі.

*— А вы можаце ўявіць сабе такую, звычайную для "праклятага" Захаду, з'яву: савецкі інвалід на калясцы падарожнічае па свеце самалётамі, аўтобусамі, цеплаходамі?*

— Не. Пакуль што гэта — не-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ВІЛЕНСКІ КРАЙ

## А ДЗЕ Ж БЕЛАРУСЫ?

**У маі адбыўся з'езд дэпутатаў усіх узроўняў Віленшчыны, які зацвердзіў Статут Віленскага нацыянальна-тэрытарыяльнага краю. Па сутнасці, гэта быў з'езд, які выказаўся за пераўтварэнне краю ў польскую адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку з польскім Сеймам, мовай, грамадзянствам, флагам, гімнам і г. д. Інтарэсы і будучыня беларускага насельніцтва Віленшчыны былі праігнараваны, больш таго, на з'ездзе было заяўлена: "Супраць палякаў нарастае беларуская сіла".**

**"Беларусы не супраць каго-небудзь, яны за сябе і за добрыя адносіны з іншымі, — гаворыцца наконт гэтага ў заяве Каардынацыйнай рады беларускіх аб'яднанняў і арганізацый у Літве. — Беларусы не супраць асобага статуса Віленскага краю ў складзе свабоднай Літвы... Мы за раўнапраўе нацый, а не за тое, каб адна нацыянальная супольнасць мела перавагу над іншымі".**

**Беларусы на Віленшчыне складаюць, паводле даных апошняга перапісу, звыш 60 тысяч чалавек. І гэта — не ўлічваючы тых, хто не можа пакуль ідэнтыфікаваць сваю нацыянальную прыналежнасць.**

**Таму, гаворыцца ў заяве, калі прыраўноўваць мовы нейкіх нацыянальнасцей гэтага краю да дзяржаўнай, то сярод іх павінна быць і беларуская. Вярхоўным органам улады прапануецца зрабіць кааліцыйны Сойм, у якім былі б прапарцыянальна прадстаўлены ўсе нацыянальнасці краю.**

**Каардынацыйная рада заклікала народы Літвы да ўзаемнай павагі, згоды і культурнага супрацоўніцтва.**

МЫ І СВЕТ

## ПРАДСТАЎНІЦТВА ГАНДЛЮ Ў НАРВЕГІІ

**Беларусь мае намер на працягу года адкрыць уласнае гандлёва-інфармацыйнае прадстаўніцтва ў Нарвегіі. Аб гэтым паведаміў намеснік старшыні Дзяржаўнага эканамічнага камітэта Беларускай ССР Уладзімір Кандрацёнка.**

**— Наша прадстаўніцтва будзе ажыццяў[illegible]ь як адміністрацыйныя, інфармацыйныя, так і [illegible]мерцыйныя функцыі. Мы, відаць, дадзім яму права самастойнага заключэння здзелак.**

**Паводле слоў У. Кандрацёнкі, адначасова можа быць адкрыта такое ж прадстаўніцтва нарвежцаў у Мінску.**

*"Савецкі Саюз нагадвае цяпер нейкага хворага, якога спрабуюць вылечыць, навязваючы яму ўсё большую дозу дэмакратыі. Яна ў яго ўжо горлам ідзе, атручвае арганізм, а яго пераконваюць, што калі прыняць яшчэ большую дозу, то справа пойдзе на папраўку, ён устане і пабяжыць. Я ўпэўнены, што не. Хворы можа ад гэтай звышдозы памерці.*

*Цяпер праблема многаўладдзя, на мой погляд, самая страшная. Я падлічыў, што недзе каля пяці-шасці тысяч чалавек прафесійна займаюцца ў СССР расцягваннем улады. Па крайняй меры з 1990 года трэба ўжо гаварыць аб барацьбе паміж людзьмі, якія імкнуцца адстаяць дзяржаву, з аднаго боку, і людзьмі, якія, можа быць нават не маючы спецыяльна такой мэты, сваімі дзеяннямі яе разбураюць, — з другога.*

*Французы па вопыту сваёй тысячагадовай гісторыі разумеюць, як лёгка дзяржаву можна развальць на часткі, а потым не сабраць. А ў нас кідаюцца з аднаго эксперыменту ў другі. І больш таго, тады, калі наднацыянальная ідэалогія рухнула, а іншай не прыдумалі. Вось чалавек і хапаецца за тое, што ў яго ёсць пад рукой, — за радавыя інстынкты, за нацыяналістычную ідэалогію. Без ідэалогіі народы жыць не могуць, павінны быць правілы паводзін, традыцыі.*

*Безумоўна, тое, што мы назіраем сёння, — гэта катастрофа. Але гэта таксама дае пэўны вопыт. Хаця, вядома, цынічна гаварыць, што, мауляў, і такі вопыт патрэбен людзям, патрэбен дзяржаве".*

*Эдуард ЛІМОНАЎ, пісьменнік-дысідэнт.*

ДАПАМАГАЮЦЬ ЯПОНЦЫ

## ФОНД ІМЯ САСАКАВА

**У Гомельскім цэнтры радыяцыйнай медыцыны пачалася вучоба, якую праводзіць група японскіх спецыялістаў на чале з прафесарам-гематолагам Навукова-даследчага інстытута ядзернай медыцыны і біялогіі універсітэта горада Хірасімы Фіміо Іманакі.**

**Яны абучаюць наш персанал рабоце на адной з пяці перасоўчных дыягнастычных установак, якія дабрачынны фонд аховы здароўя імя Сасакава перадаў Савецкаму Саюзу. Неўзабаве на ўстаноўцы-мікрааўтобусе з самай сучаснай электронікай пачнецца абследаванне дзяцей. Праз два-тры месяцы такую ж магчымасць будуць мець і дарослыя: Японія абяцае прысласць аднаведную ўстаноўку.**

**У канцы чэрвеня ў Гомель прыедуць працаваць японскія эндакрынолагі і гематолагі. Фонд імя Сасакава бярэцца бясплатна дапамагаць абласному цэнтру радыяцыйнай медыцыны на працягу пяці гадоў.**

СЕНАКОС



**Частыя майскія і чэрвеньскія дажджы спрыялі хуткаму росту траў. А добры гаспадар нават у дрэннае надвор'е заўжды выбярэ час, каб удосталь назапасіць і сена, і травяной мукі, і закласці ў траншэі многія тоны зялёнай масы. Сенакос у Беларусі ў разгары. А там і да ўборкі збожжавых недалёка.**

**НА ЗДЫМКУ: кормаўборачныя работы ў калгасе "Палажэвічы", што на Міншчыне.**

СПРАВЯДЛІВАСЦЬ ПАТРАБУЕ

## БУДЗЕ ПОМНІК

**У Бабруйску створана аддзяленне Усесаюзнай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій. Цяпер у Бабруйску налічваецца 630 рэпрэсіраваных, дзяцей і ўдоў рэпрэсіраваных, якія атрымліваюць ільготы, прыроўненыя да льгот інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны. Наладжаны дзелавыя кантакты з мясцовымі органамі ўлады, у прыватнасці, са старшынёй камісіі па справах рэпрэсіраваных пры гарвыканкоме Г. Малікавай.**

**На адным з нядаўніх сходаў рэпрэсіраваных пры ўручэнні пасведчанняў на льготы старшыня гарадскога Савета народных дэпутатаў В. Алімбочкаў паведаміў, што ў Бабруйску [illegible] пабудаваны ў недалёкім часе за кошт гарб[illegible]эту помнік ахвярам рэпрэсій.**

МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ



**Удзельнікамі буйнейшай міжнароднай выстаўкі "Экспакам-91", арганізаванай на ВДНГ СССР, сталі беларускія фірмы і прадпрыемствы. Прадукцыя тэхніка-камерцыйнага цэнтра БелНВАВТ, Інфармацыйна-маркетынгавага цэнтра "Мінск", НПА вылічальнай тэхнікі, НДІ вылічальнай тэхнікі, сумеснага савецка-індыйска-амерыканскага прадпрыемства "Белком" дастойна суседнічала з апошнімі дасягненнямі тэлекамунікацыйных і інфармацыйных тэхналогій, з прыборамі і сістэмамі апрацоўкі даных у камп'ютэрнай тэхніцы і тэхніцы сувязі, прадстаўленымі вядучымі фірмамі 15 краін свету. Карысным было для беларускіх удзельнікаў знаёмства з найноўшымі тэхналогіямі вядучых кампаній Японіі, ЗША, Германіі, Канады, Карэі і інш.**

**НА ЗДЫМКУ: на выстаўцы.**

ЗАМЕСТ КАМЕНТАРЫЯ

# ЯК ХРЫСЦІЛІ "РЭСПУБЛІКУ"

14 чэрвеня 1991 года ў Беларусі з'явілася новае выданне — выйшаў першы нумар газеты "Рэспубліка". І ў гэты ж дзень пачаў сваю работу ІІ з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Лучыць гэтыя дзве падзеі не толькі дата, але нешта большае — беларуская мова, а калі больш дакладна — стаўленне да яе, роднай і такой занядбанай.

Дык вось, калі з трыбуны з'езда выступаў намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Міхаіл Дзямчук і расказваў дэлегатам пра тое, што робіцца для адраджэння беларускай мовы, яму разам з запіскамі з залы падалі свежы нумар нованароджанага выдання, размаляваны клічнікамі ды пытальнікамі. Міхаіл Іванавіч нават разгубіўся, варочаючы ў руках газету і не ведаючы, чаго ад яго як афіцыйнай асобы хочуць. І тады з залы панеслася: "Паглядзіце, як вы самі выконваеце закон аб мовах!", "Так "адраджаецца" наша мова!", "Даёшь русификацию!", "Паглядзіце, што пад загалоўкам робіцца!". І пайшлі хрысціць "Рэспубліку" на чым свет стаіць.

А пад загалоўкам, які, дарэчы, напісаны ў нейкім блізкаўсходнім, але толькі не беларускім, нават не славянскім стылі, была прамова галоўнага рэдактара "Рэспублікі", у якой з энтузіязмам сцвярджалася: "Газета будет выходить на русском и белорусском языках, что в полной мере отражает сложившуюся сегодня в республике двуязычную реальность".

Відаць, не столькі "двуязычной реальностью" угнявіў галоўны рэдактар "Рэспублікі" дэлегатаў з'езда ТБМ, колькі той "полной мерой", з якой адведзена беларуская дзялянка ў новай газеце. Акрамя загалоўка, ёсць яшчэ адна няпоўная старонка, надрукаваная на беларускай мове. Адна — з дванаццаці! У такой прапорцыі і выглядае тая двухмоўная рэальнасць у газеце, заснавальнікам якой з'яўляецца Савет Міністраў БССР.

Таму яго Старшыня, Вячаслаў Кебіч, які прысутнічаў на з'ездзе, памкнуўся ўладзіць сітуацыю абяцаннем, што ў наступных нумарах будзе больш беларускіх старонак, а калі ўжо на тое будзе жаданне і воля з'езда, то "Рэспубліка" стане цалкам беларускай газетай. Зала на такі жэст адказала вясёлымі апладысментамі. Але застаўся горкі прысмак ад гэтага "шчаслівага канца" — калі ў тых, хто сёння працуе ў сродках масавай інфармацыі, не будзе палкага жадання адрадзіць нашу мову, а не чакаць, пакуль "двуязычная реальность" зменіцца сама па сабе, без нашых намаганняў, ніякі з'езд, ні распараджэнні высокіх інстанцый не прымусяць зрабіць беларускую прэсу беларускамоўнай. З-пад палкі добрай работы чакаць дарэмна.

"Рэспубліка" не адзіная газета, якая прыкрываецца беларускім "дахам". Так робяць амаль усе новыя выданні, а ў старых, беларускіх, раптам з'явіліся цэлыя рускамоўныя раздзелы і старонкі. Усё гэта "грунтоўна" абстаўляецца тым жа законам аб мовах. Як кажуць у нас, закон што дышла: каму як выгадна, той так і паварочвае яго, так і трактуе. Рынак, які бярэ за горла выдаўцоў, прымушае шукаць чытача. А ён у Беларускай рэспубліцы "предпочитает" рускага чытача, значыць на яго і стаўка. Вядома, што беларускамоўнае выданне прыбытку не дасць, адны страты. Матэрыяльныя страты. А пра духоўныя баліць два членам ТБМ, можа, яшчэ таму-сяму.

На з'ездзе прагучала адна вельмі слушная думка: там, дзе гаворка ідзе аб нацыянальнай мове, культуры, камерцыя павінна быць адкінута. Клопат дзяржавы, суверэннай Беларусі, — падтрымліваць матэрыяльна роднае слова, каб яно не ўмерла. Але гэтага мала. Асаблівасць нашага грамадства часоў перабудовы ў тым, што дзеля яго ніби прымаюцца добрыя і разумныя законы, ды ніхто іх не выконвае. Таму вельмі ўсцешыла ўсіх, хто быў на з'ездзе ТБМ, канструктыўная прапанова Старшыні Савета Міністраў рэспублікі Вячаслава Кебіча стварыць у Саветах усіх узроўняў, ад Вярхоўнага да раённага, а можа і пасялковага, такі орган, які займаўся б праблемамі беларусізацыі, кантролем за выкананнем Закона аб мовах у Беларускай ССР, дапамагаў працэсам нацыянальнага адраджэння.

Тады, можа, перастануць выходзіць выданні, у якіх уся беларускасць змяшчаецца толькі ў іх назве.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**

# ПАМІЖ СНОМ І ЯВАЙ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

рэальна. Гэта як сон. Дзе нам да таго Захаду! У лютым сёлета я ездзіла ў Германію, разам з інвалідамі былі ў дамах-інтэрнатах, у дамах, дзе жывуць састарэлыя. У мяне сэрца аблівалася крывёю! Паглядзець толькі: інвалід садзіцца ў каляску і адно націскае кнопкі. Прыязджае ў цэх, дзе для яго спецыяльная праца, на ўзроўні яго каляскі тэлефон-аўтамат, усе паслугі — дзеля яго; тут яму а 12-й гадзіне абед прынеслі, тут ён узяў у рукі часопіс ці газету пачытаў. Даехаць ад дому да месца працы ці да якога сквера, дзе любіць бавіць час, — няма праблем. Усе вуліцы, дарожкі, пад'езды дамоў маюць скаты, спецыяльна прадугледжаныя для інвалідаў. У гандлёвых цэнтрах спецыяльныя ліфты. А што зрабіла грамадства для інвалідаў у нас? Летам 1990 года фонд рашыў правесці дабрачыннае свята ў Палацы Белсаўпрофа ў Мінску. Сабралі інвалідаў з усяго горада, на калясках з'язджаліся, на аўтобусах прывозілі. Дык мы ж іх на руках уносілі і на руках выносілі. Нехта, падымаючыся па прыступках, падаў... Дык ці ж маем мы права гаварыць, што у нас цывілізаванае грамадства?!

Гэта цяпер толькі фонд нешта намагаецца зрабіць: звярнуліся да будаўнікоў, дасталі альбом "Жыллё інваліда", у якім прапануецца зрабіць хаця б элементарныя парэнчы, скаты, каб чалавек мог зручна перамяшчацца, не выбіваючыся з апошніх сіл...

*— Але пакуль што і гэта для нас сон, які, калі і спраўдзіцца, то не скора. А сёння аб чым у вас галава баліць? Які ваш найбольшы клопат?*

— Дастаць мільён, хаця б мільён рублёў. Мала фінансавых сродкаў. Я пастаянна павінна лічыць і азірацца, думаючы, што застанецца на заўтра. А гэта ўносіць нярвовасць. Каб сёння на рахунку фонду быў мільён, мы маглі б дапамагчы кожнаму, хто у гэтым мае патрэбу. А так я вымушана меркаваць: наш гэта просьбіт ці не наш? Нават дзецям, а ёсць вельмі ж бедныя сем'і, мы не можам дапамагчы, адпраўляем у Дзіцячы фонд...

*— Ці не здаецца вам, Валянціна Уладзіміраўна, што вы не з добрай волі становіцеся бюракратам?*

— Згодна! Але ж я гляджу ў Статут: не адзінокі, не інвалід — выбачайце, вы — не наш, магу дапамагчы толькі сваім. Каб мелі больш грошай... Я не кажу ўжо пра валюту. Пакуль на нашым рахунку нейкая сірочая тысяча долараў. А сёння нават у Вільнюсе зрабіць аперацыю на сэрцы, ратаваць дзіця — тысяча долараў і 10 тысяч рублёў! За два з паловай гады мы змаглі дапамагчы зрабіць за мяжой пратэзы толькі двум інвалідам. Звяртаюцца ж многія. І каб вы ведалі, якія людзі, з якім нялёгкім лёсам. Я ненавіджу сябе, калі вымушана казаць чалавеку: "Пазваніце пазней, зайдзіце яшчэ, пакуль што не можам..."

Міжволі бюракратам становішся.

*— Напэўна, дарэмна вы так, перакананы, што бюракратызм тых арганізацый і ўстаноў, з якімі вам прыходзіцца мець дачыненне, куды большы.*

— Калі ў сябе нам удаецца звесці розныя бюракратычныя фармальнасці да мінімуму, то ў адносінах да нас, да фонду... Што тут гаварыць: мы ж круцімся ў адной дзяржаўнай і грамадскай сістэме... Нам неяк давялося заняцца пахаваннем, хаця гэта — не наш абавязак, не наш клопат. Памёр чалавек, родных няма, паўгода праляжаў, а пахаваць няма каму. Міліцыя знайшла ў таго чалавека нейкую паперыну, што Фонд міласэрнасці і здароўя карміў яго. Сталі званіць да нас, налягаць, і мы павінны былі пахаваць чалавека.

*— Але ж гэта — праблема мясцовай улады!..*

— Слушна, ды выявілася, што хаваць адзінокага чалавека ў нас павінна цэлая каманда: начальнік жыллёва - эксплуатацыйнай службы, участковы міліцыянер, старшыня дамавога камітэта і старшыня Савета ветэранаў.

*— Паспрабуйце сабраць іх разам! Што за дзіўныя інструкцыі?*

— Гэта самая нялюдская бюракратыя. І ці ж можна чалавеку, які пражыў сваё жыццё на гэтай зямлі, аддаў грамадству свой розум, рукі, здароўе, вось так "дапамагаць" адыходзіць на той свет?! Мы многа гаворым аб гуманізме, а нормай нашага жыцця ён так і не стаў.

*— На ваш погляд, Валянціна Уладзіміраўна, чаго ўсё ж у нас болей: спагады ці чэрствасці, высакародства ці нізасці, цынізму, міласэрнасці ці раўнадушша, абыякавасці да пакрыўджаных і нямоглых?*

— Усё-такі добрага — больш. Не памятаю, каб хто-небудзь, да каго мы звярталіся за дапамогай, адмовіў фонду. Вядома, ёсць выпадкі і абыякавасці. Крыўдна, напрыклад, што такі гігант прамысловасці, і не бедны, як Беларускі аўтамабільны, адмовіў фонду ў дапамозе.

Найбольш, я вам скажу, адгукаюцца простыя людзі. Нехта прыслаў сотню, другі — усяго рубель. І якраз тыя, у каго гэты рубель не лішні. [illegible]е нам патрэбны не толькі [illegible]ы, а і добраахвотныя памо[illegible]кі. І тут у фонду найлепшыя стасункі з веруючымі. У нас няма розніцы, хто ты — баптыст, пяцідзесятнік, католік ці праваслаўны. Па нашай просьбе гэтыя людзі даглядаюць хворых. У бальніцах яны робяць бескарыслівa самую цяжкую работу, за якую не бяруцца тыя, хто за гэта атрымлівае зарплату. У доме-інтэрнаце ў Дражні працуюць 100 баптыстаў, мы папрасілі іх пайсці туды. Людзі там не галодныя, не голыя ды босыя, але не дай Бог нам з вамі апынуцца ў такім доме на старасці — загрызае адзінота, адчужанасць. Дык вось, з прыходам у Дражню баптыстаў там атмасфера змянілася — людзі адчуваюць клопат і цяпло.

А наогул у нас многа ахвочых дапамагчы, вялікі актыў. Прыходзяць і прапануюць свае паслугі пенсіянеры, студэнты, артысты, мастакі, людзі веруючыя і атэісты. Перафразіруючы вядомую прымаўку, скажу, што фонд не без добрых людзей.

*— Ваш фонд не мае дэвіза. Калі б яго трэба было прыдумаць, то які б дэвіз для Фонду міласэрнасці і здароўя ўзялі вы, Валянціна Уладзіміраўна?*

— Не ведаю, гэта дэвіз ці не, але я кожны дзень прыходжу на працу з такой думкай: міласэрнасць падобна на студню, з якой чым больш чэрпаеш, тым чысцейшай яна становіцца.

**У мяне ледзь не сарвалася з языка яшчэ адно пытанне, падрыхтаванае загадзя: ці не знудзіла Валянціну Колас аву работа ў фондзе, ці не стала ўжо для яе шэрай падзёншчынай? Але ўбачыўшы і зразумеўшы гэтага энергічнага і такога добрага чалавека, які гатоў увабраць у сябе боль усіх абойдзеных лёсам, я, зразумела, не задаў такое пытанне: яно было б бестактоўным і нават крыўдным.**

**Пакідаў я Фонд міласэрнасці і здароўя са шчымлівым пачуццём спагады да людзей, на плячах і энтузіязме якіх трымаецца гэта арганізацыя. Каб яна функцыяніравала і выконвала сваё прадвызначэнне, пастаянна трэба нешта "выбіваць", "прабіваць". Фонд заснавалі з паўсотні розных прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, але грошы далі Таварыства глухіх, Таварыства сляпых ды некалькі міністэрстваў. Сыты галоднаму не спагадае... Пакуль што сродкі даюць не калгасы-мільянеры, не багатыя вытворчыя аб'яднанні, не кааператывы, больш за ўсё — простыя людзі. Вось і даводзіцца фонду хадзіць з працягнутай рукой, пісаць пісьмы, карацей — прасіць і прасіць.**

**Фонд месціцца ў невялікім пакойчыку — сем сталоў, адзін на ўсіх тэлефон, тут і інвалідныя каляскі стаяць, і на паўтара мільёна дабрачынных білетаў пачкамі згружаны. Уявіце, што да сямі супрацоўнікаў адразу прыйшло толькі па аднаму наведвальніку...**

**Яшчэ ў 1989 годзе рашэннем Савета Міністраў БССР было даручана Мінскаму гарвыканкому выдзеліць для фонду памяшканне. Нягледзячы на ўсю "прабіўную" энергію кіраўнікоў Фонду міласэрнасці і здароўя, у іх няма ні сіл, ні здароўя, каб "выбіць" сабе нармальнае памяшканне. Хаця за гэты ж час, што існуе фонд, многія кааператывы і сумесныя прадпрыемствы (СП) займелі ў цэнтры горада прэстыжныя офісы.**

**Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**

**Калі б вы хацелі дапамагчы Фонду міласэрнасці і здароўя, нагадваем яго рахунак —**

**70[illegible]01**
**Знешэканомбанк СССР МФО 80[illegible]3**
**Беларускага рэспубліканскага банка**

## ЗАШЧЫМЕЛА СЭРЦА АД УБАЧАНАГА...

**Некалькі дзён назад у Брэсцкую абласную бальніцу прыйшла тэлеграма з Амерыкі. У ёй грамадзянін ЗША Арсенцій Калтунчык яшчэ раз дзякаваў персаналу і паведамляў, што пасля перанесенага інфаркту і курса лячэння, праведзенага беларускімі ўрачамі, адчувае сябе добра, сам дае рады на сваім ранча.**

**...Пяцьдзесят гадоў не быў Арсенцій Калтунчык на Радзіме. І вось зноў ён у краі свайго дзяцінства. Тут, у вёсцы Асіповічы Драгічынскага раёна, пражыў ён да 1943 года, а потым разам з трыццаццю землякамі быў вывезены ў Германію. Калі ж закончылася вайна, што разлучыла яго з роднымі мясцінамі, напалоханы сталінскімі рэпрэсіямі, ён накіраваўся ў далёкую Аўстралію, а затым ўладкаваўся ў Амерыцы. Але памятныя з ранняга дзяцінства мясціны, па словах Арсенція Рыгоравіча, сніліся яму амаль кожную ноч. І вось ужо ў сталым узросце рашыўся ён на сустрэчу з Радзімай.**

**У першыя дні такой доўгачаканай паездкі эмоцыі захліснулі былога палешука. Аказваецца, і вёска змянілася, і жыццё стала іншым, і родныя жывуць не так ужо дрэнна. Зашчымела сэрца пажылога палешука, зашчымела, ды і не адпусціла...**

**Урачы паставілі Арсенцію Рыгоравічу дыягназ — інфаркт міякарда. У Брэсцкай абласной бальніцы, у асноўным, і прайшоў адведзены для паездкі час: некалькі дзён у рэанімацыі, затым кардыялагічнае аддзяленне. Медыкі зрабілі ўсё, каб грамадзянін ЗША, які размаўляе на палескім дыялекце, Арсенцій Калтунчык паехаў дамоў здаровым. І вось цяпер — гэтая падзяка...**

**Э. КАБЯК.**

**НА ЗДЫМКУ: Арсенцій КАЛТУНЧЫК перад выпіскай з бальніцы з медыцынскімі сёстрамі Т. АКСЯНЮК, Л. ПАЧКО, В. ПРАСТАКОВАЙ і загадчыкам кардыялагічнага аддзялення Б. ЗАВАДСКІМ.**

**Фота аўтара.**




— 25 —

Яна была проста апранута, але ў гэтай прастаце чуўся смак, чуўся голас мастака, які наўмысьля зьбягаў крыклівых фарбаў і формаў.

Чорнае, шоўкавае паліто прыгожа абцягівала яе стройную фігуру. Чорны капялюш з маленькімі скрыдламі, як у амурчыка, вельмі добра падкрэсліваў бялізну й кругласьць твару, на якім гарэлі сінія вочанькі-вочы. Праз паліто віднелася сіняе ўбраньне з прыгожа адценяўшай форму шыі кружаўной устаўкай. Стройныя ногі былі абцягнуты жоўтымі чаравікамі.

Вобраз быў цікавы. Самае цікавае ў гэтым вобразе былі вочы. Яны сьмяяліся раней, чым яна хацела сьмяяцца. Здавалася, яны заўсёды былі насьмешлівымі, крыху вострымі і калючымі. Ад іх прамяніўся дзіўны сіні сьвет, які, здавалася, йшоў здалёку, з нейкай глыбіні. Калі б зьмясьціць гэтыя вочы ў цёмны пакой, яны напэўна асьвяцілі б усё дзіўным, фасфарэсцыруючым сьветам. Асабліва яны пачыналі цікава блішчэць, калі яна сьмялася ўва ўсю моц сваіх лёгкіх, — дзіўным, звонкім, як песьня жаваронка, сьмехам.

Загорскі першы выйшаў да яе, прывітаўся й павёў яе прадстаўляць беларускай грамадзе. Студэнты з прыемнасьцю пацiскалі яе пульхлую руку ў рукавіцы. Нават "айцец" Кірыла ветліва сагнуўся і з застыўшай усьмешкай на сваім твары прамовіў: "Вельмі прыемна".

— Наша грамада, як бачыце, невялікая, — зазначыў Загорскі, калі працэдура знаёмства скончылася.

— Ну, справа, я думаю, ня ў колькасьці, а ў якасьці, — засьмяялася Вярхоўская.

— Зразумела, — адказалі сьмяючыся студэнты.

— Вы, напэўна, яшчэ не пасьпелі агледзець

— 26 —

нашага Студэнцкага дому, — галантна нахіліўся да яе напарфумлены Загорскі.

— Так, я яшчэ сюды толькі што прыйшла. Але мяне дзівіць маса народу, тут поўнагучнасьць жыцьця і разам з тым тая свабода, з якой тут трымаюцца ўсе...

— Так, тут паўнейшая свабода, — адказаў за ўсіх Загорскі, стараўшыся высунуцца перад усімі. — Так дазвольце вас азнаёміць з нашым Студэнцкім домам...

— Калі ласка, — засьмяялася яна ізноў, — з вялікай прыемнасьцяй... Але мне трэба было б пабачыць некаторых нашых зь Вільні, перш за ўсё грамадзяніна Станкевіча.

— Там і пабачым, — усьміхнуўся Загорскі.

— Тады пойдзем, — сказала яна, гледзячы на групу студэнтаў, як каралева глядзіць на сваю сьвіту.

Усе пайшлі за ёю ў залю. Засталася толькі невялічкая частка на чале з "айцом" Кірылам.

— Н-да, — прамычаў Кірыла, калі працэсія схавалася ў зале, — важная птушка, — і няміласэрна сплюнуў на падлогу.

— Нічога асаблівага. Але, здаецца, недурная, — сказаў Малевіч.

У зале Студэнцкага дому было шумна: трашчаў пінг-понг, стукалі більярды, рассыпаў хвалі гукаў раяль, сьпявалі й гутарылі людзі. У другой канцэртнай залі былі пастаўлены рады крэслаў, зроблены памост, на якім стаяў таксама раяль, адзыняўшыйся толькі падчас канцэртаў. Над памостам вісеў вялікі плакат з зялёнай матэрыі, напісаны на лаціне: "Ut omnes unum sunt" ("Няхай усе будуць, як адзін"). На памосьце, на крэслах, за столікамі, цягнуўшыміся ўздоўж сьценак, па

— 27 —

ўсіх кутках сядзелі групамі студэнты і грызьлі граніт навукі. Тут можна было спрачацца, можна было разам высьветліць незразумелыя пытаньні, у адлічча ад тых пакояў Студэнцкага дому, якія называліся "студоўнамі"[1], у якіх была магільная ціша.

— За гэтай залей, — сказаў ішоўшы побач Вярхоўскай элегантны Загорскі, — ёсьць спэцыяльныя пакоі для жанчын. Вы не жадаеце туды пайсьці?

— Не, дзякую... Пакуль што я не жадаю сябе аддзяляць ад мужчын, — яна засьмяялася. На яе глянулі з зьдзіўленьнем усе ў залі. На адну [illegible]у ўсе адарвалі свае вочы ад кніжак, каб пагля[illegible]ць на дзіўную працэсію, цягнуўшуюся за жанчынай. Потым зноў усе пачалі займацца сваёй справай.

Яе звонкі сьмех пачуў сядзеўшы на памосьце Станкевіч. Ён сам пайшоў ей на спатканьне.

— А, Галена Уладзіміраўна, — сказаў ён з больш вясёлым выразам твару, чым калі гута[illegible] з студэнтамі. — Прыехалі? Ну дзякаваць Бо[illegible] — Ён пацiснуў яе руку.

— Напэўна, не чакалі мяне? — сказала вясёлая Вярхоўская.

— Як жа? Чакалі, яшчэ як... Вы нам вельмі патрэбны былі. Вам не хацелі выдаць стыпэндыі, таму што вас не было ў той час у Празе, але я пастараўся з'абараніць вас. Вам ужо ёсьць стыпэндыя. Вы толькі зараз павінны зьвярнуцца да старшыні "Беларускай Грамады ў Празе". Вы ведаеце, дзе ён жыве?

Вярхоўская пакачала галавой.

— Я магу правесьці, — пасьпяшыў зазначыць Загорскі. Яму вельмі не хацелася адпускаць ад сябе Вярхоўскую.

— 28 —

— Ну вось і добра. Вам зараз трэба будзе ісьці.

— Якая вы шчасьлівая, — зазначылі падышоўшыя ў гэты час беларускія студэнткі. — Толькі прыехалі, а ўжо маеце стыпэндыю. А вось мы жывем у Марыямскім кляштары ўжо са жніўня месяца. Лічыце, колькі гэта будзе да лістапада; маліліся Богу, пасьцілі, спаўняем усе загады манашак і аканчальна губляем чалавечую годнасьць.

— Вы жывеце ў кляштары? — здзівілася Вярхоўская.

— А як жа?! — адказалі ей студэнткі. — Вось як пойдзеце ад Студэнцкага дому напра[illegible] — у маленькай, вузкай сярэднявечнай вулі[illegible] бачыце стары каменны дом з дубовымі вар[illegible]мі, з вузкімі вокнамі, з кратамі. Вось за гэтымі кратамі мы і жывём, як у турме — і высовываем галовы на сьвет Божы, як арыштанткі.

— Мусі быць, нам прыдзецца доўга яшчэ жыць у кляштары, — зазначыла маленькага росту досыць ужо пажылая студэнтка-мэдычка. — [illegible]мяне ўжо даўно ня плачана за стол й кватэру. М[illegible]ўгу каля 380 карон.

— А ў мяне больш 500, — зазначыла другая, высокая і худая, з непрыгожым жоўтым тварам.

— Запраўды гэта цяжка, — сказала Вярхоўская. — Такое жыцьцё перанясьці — трэба ня мала геройства.

— Ведаеце, што? — прапанаваў маўчаўшы Станкевіч. — Вы падайце заявы ў Грамаду і папрасіце дапамогі. Я думаю, што вам якія-небудзь сумы адпусьцяць ці ўлаштуюць вас на стыпэндыю.

— Мы ўжо пісалі, — зазначылі студэнткі. — І ніякай карысьці.

— Пішыце яшчэ раз. Стукайце часьцей, і адчыняць вам.

— 29 —

— Відацца адразу, што вучыўся ў духоўнай сэмінарыі, — насьмешліва паглядзеў на Станкевіча Загорскі. Яму было прыемна бачыць блішчэўшыя бяссільным, злобным вагнём вочы Станкевіча. Загорскі ведаў, што Станкевіч нічога ня можа яму зрабіць, нягледзячы на свае ўплывы ў Грамадзе.

— Але нам час ісьці, — зьвярнуўся ён да Вярхоўскай, каб перабіць адказ Станкевіча. — Мы можам не знайсьці старшыні ў хаце.

Яны разьвіталіся і выйшлі. Усю дарогу Загорскі стараўся весяліць Вярхоўскую. На сходах, вёўшых на высокую гару да дому старшыні, ён узяў яе за локаць, дапамагаючы падняцца. Але каля самага дому, на якім было напісана "Беларуская Грамада ў Празе", яна сама пажадала збавіцца ад няпрошанага праваднiка:

— Вось мы і прыйшлі, дзякую вам. Цяпер я ўжо сама знайду кватэру. Да пабачэньня! — яна працягнула яму руку ў рукавічках.

Ён глядзеў на яе, поўны зьдзіўленьня: "Як? Яна сама мяне пакідае?" — падумаў ён.

— Усяго добрага... — прамовіў ён сумна. Зьняў капялюш і павярнуўся зноў да Студэнцкага дому.

Вярхоўская знайшла старшыню Грамады за сваім пісьменным сталом, апранутым у чорны касьцюм, з вялікай белай хусткай у левай кішэні, вясёлым і памаладзеўшым. Ад яго нясло яшчэ парфумай...

— Я толькі што з міністэрства, — сказаў ён, пасадзіўшы Вярхоўскую на мяккае крэсла каля столу. — Добра, што вы зараз прыехалі. Якраз вас мы сяньня зацьвердзілі на стыпэндыю. Вітаю! — Ён працягнуў ёй руку. — Цяпер вам толькі дарога ва унівэрсытэт. На які ж вы думаеце паступіць факультэт?

— 30 —

— Я? — І ня думаючы, хутка адказала: — Вядома, на філязофію...

— Чаму "вядома"? — усьміхнуўся старшыня.

— Таму, што я не належу да тых, якія глядзяць на навуку, як на дойную карову. Я ведаю, што ў вас тут усё толькі тэхнікі ды мэдыкі... А між тым на Бацькаўшчыне патрэбны грамадскія працаўнікі, знаёмыя з гісторыяй. Я думаю аддаць усе сілы барацьбе за вызваленьне беларускага народу. А калі гэтага будзе патрабаваць справа — я заўсёды змагу быць міласэрнай сястрой.

— Вось вы як... Не чакаў, — глядзеў на яе расшыранымі, бясколеравымі вачыма на заплыўшым жырам, старым маршчыністым твары старшыня. — Ці ў Вільні там усе такія? — І не чакаючы адказу, пачаў запісваць у паперы яе факультэт... — Стыпэндыю можаце атрымаць ужо заўтра, у "Чэска-Украінскім камітэце", — падняў ён галаву над паперамі. — А што датыча паступленьня ва унівэрсытэт, дык вам дапамогуць вашыя сябры.

— Дзякую... Гэта ўсё? — Яна сабралася ісьці.

— А як у вас з кватэрай? Дзе-небудзь? — запытаў, устаючы старшыня. — Калі няма, дык пакуль што ў мяне... Можаце паставіць хаця б свае рэчы.

— Не... Не... Дзякую... У мяне тут ёсьць знаёмыя студэнты і студэнткі. Я ў іх, — адмаўлялася Вярхоўская...

— Можа быць, будзеце ў нас абедаць? — казаў

Праця**г**.
Пачатак у № 23 — 25.

— 31 —

ён, адчыняючы дзьверы ў кухню... — Маша, прыгатуй нам абед. — Яго прыгожая жонка-чэшка пасьпяшыла да пліты.

— Не, не, — рашуча адмаўлялася Вярхоўская. Чэшка старалася ўгаварыць яе на ламаной чэска-беларускай мове: трымала яе за руку, міла гладзіла, нават казала, што яна прыгожая, і гатова была, здаецца, абняць і пацалаваць.

— Ну, ня хоча, дык што будзеш рабіць? — сказаў старшыня. — Ах, пачакайце, я зусім запамятаў. Ёсьць тут у нашай Грамадзе чалавек па прозьвішчу Тугоўскі. — Ён паморшчыўся. — Вы мо ня ведаеце? Не?

Вярхоўская пакачала адмоўна галавой.

— Кажуць, што ён дзесьці загінуў, што яго ўжо няма ў Празе... Ён нідзе не паказываецца, ніколі не бывае ў Студэнцкім доме, словам — прапаў чалавек і толькі... Я вельмі хацеў ведаць, што з ім, бо яму якраз цяпер з вамі выпісана стыпэндыя. Дык вось, да вас мая вялікая просьба: расшукайце яго якім-небудзь чынам праз студэнтаў. Яны напэўна ведаюць, дзе ён, і паведаміце, што ў яго ёсьць стыпэндыя. Няхай ён зойдзе да мяне.

— Добра... Тугоўскі яго прозьвішча? Так, я пастараюся... Добра... Да пабачэньня!

— Усяго добрага, усяго добрага! — казалі ў адзін голас старшыня і жонка. — Заходзьце да нас часьцей, — запрашала чэшка, зачыняючы дзверы.

Вярхоўская ішла зноў у Студэнцкі дом па вялікіх сходах. Яна думала аб студэнтах, якіх спаткае, думала як мага хутчэй і энэргічней пачаць шуканьне прапаўшага Тугоўскага.

— 32 —

IV

У Студэнцкім доме толькі зараз, пад энергічным націскам Вярхоўскай, успомнілі, што запраўды існаваў на сьвеце юнак па прозьвішчу Тугоўскі. Запраўды, некалькі разоў бачылі яго ў залі. Тады ніхто не зьвярнуў увагі на яго, і шмат у каго гэты вобраз зусім зьнік з памяці. Адзін "айцец" Кірыла з трывогай успамінаў таго, хто плакаў падчас вясёлай мінуты пад сьценкай інтэрнату.

Толькі адзін ён зразумеў, што душа ў Тугоўскага досыць чулая, што яна, можа быць, па-свойму заслугоўвае ўвагі, ва ўсякім выпадку, яна не павінна быць загублена для "Беларускай Грамады ў Празе": яе трэба знайсьці. Але ўсе шуканьні ня мелі посьпеху. Было вядома, што ён больш ня жыў у інтэрнаце, бо нават для інтэрнату ў яго не хапала грошай. Ён спаў дзесьці ў альтане, у садзе і штодня мяняў сваю кватэру, каб яго не знайшоў садоўнік і не адправіў у паліцыю, як бяздомную і падазроную асобу... Казалі, што ён прыходзіў спаць у альтану позна, калі было зусім цёмна, і яго быццам бачылі штодня, але зноў ніхто напэўна ніхто ня мог цьвердзіць. Як-бы там ні было, "айцец" Кірыла рашыў знайсьці закінутага і вярнуць да жыцьця.

Быў прыгожы, васеньні ранак. Залатое сонца залаціла яшчэ больш апошнія, жоўтыя лісты дрэў на алеях. Усё памірала. Акорды сьмерці нясьліся ў апошніх парывах ветру, шумеўшага ў ёлках і тапалёх саду.

[1] Studovna (чэшск.) — пакой для заняткаў.

ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ

# СЛУЖБУ СЛУЖЫЦЬ НА РОДНАЙ МОВЕ

Паважаная рэдакцыя!

У газеце "Голас Радзімы" № 18 з дня 2 мая 1991 года быў змешчаны "Зварот сяброў клуба "Спадчына" да кіраўніцтва і вернікаў хрысціянскіх канфесіяў на Беларусі". Прашу змясціць мой адказ клубу.

"Зварот" нікім не падпісаны, таму трэба лічыць яго як ананім. Я баюся, каб у "Спадчыне" не хаваліся вуніяты, якія баяцца выставіць свае прозвішчы на вонкі. Я не веру ананімам, так як і не веру вуніятам. Я начытаўся па вушы беларускіх вуніяцкіх і каталіцкіх зваротаў, камунікатаў, адозваў і г. д. Як прыклад тут у Англіі: група вуніятаў і каталікаў з арганізацыі ЗБВБ брала ўдзел у прыняцці польскага кардынала Глемпа ў Лондане і паведаміла ў камунікацы, што "ў прыняцці польскага кардынала Глемпа бралі ўдзел беларусы". Камунікат нікім не падпісаны, а гэта — ананім. Чаго ж хавацца? Чаму ж не падпісаць, што "ў прыняцці польскага кардынала ўдзельнічалі беларускія вуніяты і каталікі з арганізацыі ЗБВБ". Гэта ж было б шчыра і сумленна. Я ніколі не супраць, што беларусы называюць сябе вуніятамі альбо каталікамі.

Аднак жа ў звароце "Спадчына", нікім не падпісаным, ёсць добрая прапанова, каб беларускія царкоўныя служыцелі выглашалі свае казанні ў беларускай мове. Тут трэба дадаць, каб свяшчэннікі былі беларусамі, каб пасля службы гутарылі па-беларуску, каб адміністрацыйныя царкоўныя справы вялі ў беларускай мове, каб беларускія праваслаўныя парафіяльныя камітэты ўжывалі родную мову. Што да беларускага царкоўнага гімна "Магутны Божа", дык яго ўвялі і ўводзяць беларускія вуніяты ў сваіх касцёлах, і ніхто не мае права ім забараніць. Гімн узяты менш-больш з польска-каталіцкага "Божэ цось Польскен пшэз так лічнэ векі". Святую літургію, паводле гісторыі праваслаўнай веры, служаць у славянскай мове ва ўсіх краінах свету, дзе толькі існуе праваслаўная вера, таму беларусы не могуць быць выняткам. Святую літургію ў славянскай мове ліквідуюць нашы вуніяты для падтрымання свае палітыкі польска-ватыканскага ўхілу. Праваслаўныя беларусы на Бацькаўшчыне павінны ўважна сачыць за палітыкай вуніяцкага і каталіцкага касцёла ў Беларусі, бо ўсе дырэктывы прыходзяць з Ватыкана, каб ступенька па ступеньцы ўводзіць у праваслаўе вунію і каталіцызм, выкарыстоўваючы перабудову і адкрытасць на Беларусі.

**С. ШЧЭРБА.**

Англія.

**АД РЭДАКЦЫІ. У нашай працы мы імкнёмся як мага больш уважліва і аб'ектыўна ставіцца да пункта гледжання кожнага нашага чытача. Тым больш, калі гэта тычыцца нейкіх важкіх дыскусійных момантаў у жыцці Бацькаўшчыны. Таму, а таксама ўлічваючы настойлівую просьбу С. Шчэрбы, мы і друкуем ягоны ліст без змяненняў. Магчыма не ўсе чытачы газеты прымуць трактоўку пытання, пададзеную нашым карэспандэнтам з Англіі. Гэта зразумела, і мы чакаем водгукаў. Аднак дзеля той жа аб'ектыўнасці лічым неабходным заўважыць, што яго выказванне наконт ананімнасці звароту, відаць, пазбаўлена вялікай падставы. Хоць з вельмі фармальнага боку, можа быць, С. Шчэрба і мае рацыю, але ж клуб заснаваны згодна літары закона і ажыццяўляе сваю дзейнасць публічна, грунтуючыся на ідэях і веры сваіх членаў. А што да подпісу, дык справа самой арганізацыі, яна вырашае, у якім выглядзе яе падаваць пад той ці іншай адозвай. Такая наша думка на гэты конт.**

# II. СТО СУСТРЭЧ ЗА АКІЯНАМ







"Няхай Божае благаславенне будзе заўсёды над храмам Святой Ефрасінні", — сказаў першы настаяцель Мікалай Лапіцкі ў час адкрыцця Беларускай Праваслаўнай Царквы ў Саўт-Рыверы. Было гэта амаль два дзесяткі гадоў назад. Так у Злучаных Штатах Амерыкі з'явіўся новы грамадскі цэнтр, які яшчэ мацней аб'яднаў адну з самых вялікіх калоній беларусаў. Царкву ў Штатах беларусы пабудавалі і набылі не так і шмат — толькі восем. Але гэтая, у цікім гарадку пад Нью-Йоркам, — адна з самых прыгожых. І ўсё ў ёй — ад праекта да купала — зроблена сваімі рукамі. Спатрэбілася майстэрства продкаў-дойлідаў, ды і свайго не займаць. Асабліва вялікі ўклад у справу будаўніцтва храма ўнёс мастак-разьбяр Алег Махнюк, які ў той час з'яўляўся яшчэ і дыяканам. Але я мушу расказаць пра гэтага руплівца ў наступным сваім матэрыяле.

Узведзеная ў гонар святой Ефрасінні Полацкай царква стаіць на высокім месцы каля магістралі. Кожную нядзелю і на вялікія рэлігійныя святы сюды прыязджаюць і старыя, і моладзь, і зусім маленькія беларусы. Натхнёна і ўзнёсла гучыць царкоўны хор. Цяперашні святар чытае пропаведзі і вядзе службу па-беларуску. Твары ў прыхаджан святлеюць, як быццам яны не далёка ад родных мясцін, а ў сваёй вясковай царкве. Тут яны адчуваюць сябе часцінкай Бацькаўшчыны і кожны раз старанна моляць: "Заступіся прад Богам за Беларускі Народ твой, княжна наша Святая Ефрасіння!"

І ў кожнай беларускай царкве (акрамя Саўт-Рывера я наведаў праваслаўныя храмы ў гарадку Нью-Брансвік, штат Нью-Джэрсі, у Клірлендзе і ў Нью-Йорку на Квінсе) заўсёды гучаць малітвы за Беларусь. Адна з малітваў вымаўляецца вершавана:

Магутны Божа! Уладар сусветаў,  
Вялікіх сонцаў і сэрц малых,  
Над Беларусяй ціхай і ветлай  
Рассып праменьне Свае хвалы.

Дай спор у працы спакойнай, шэрай,  
На хлеб штодзённы, на родны край.  
Павагу, сілу і веліч веры  
У нашу праўду, у прышласьць — дай!

Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,  
Учынкам нашым пашлі ўмалот.  
Зрабі свабодной, зрабі шчасьлівай  
Краіну нашу і наш народ.

Амаль пад кожнай царквой ёсць залі — вялікія памяшканні, дзе адбываюцца часам далёкія ад царкоўных справы. Тут часта наладжваюцца сустрэчы, лекцыі, угодкі-ўшанаванні, памінкі, сустракаюць Новы год, спраўляюць куццю, адзначаюць Каляды. Моладзь збіраецца на рэпетыцыі, спяваць ці танцаваць, царкоўныя камітэты вырашаюць надзённыя праблемы. Мне ўдалося патрапіць у залу пад царквой Святога Кірылы Тураўскага ў Нью-Брансвіку на калядную куццю, дзе запраўляе службаю святар Васіль Андрыюк. І было такое адчуванне, што сабраліся беларусы на бяседу за агульны стол не за акіянам, а ў сябе дома.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**

## МУЗЫ І РЫНАК

# «НЕСВОЕЧАСОВЫЯ ДУМКІ?»

**Нядаўна ў кінематаграфічным свеце рэспублікі з'явілася новая назва — Беларуская студыя сацыяльнага фільма "Грамада". З яе мастацкім кіраўніком, кінарэжысёрам Барысам ГАРОШКАМ гутарыць карэспандэнт Валерый ШЭІН.**

*— Барыс Міхайлавіч, усё часцей мы сустракаем назву студыі "Грамада", іншы раз у справах, напрамую не звязаных з кіно. Дык што такое "Грамада"?*

— Беларуская студыя сацыяльнага фільма "Грамада" створана ў маі 1990 года Саюзам кінематаграфістаў Беларусі і Беларускім аддзяленнем Кінематаграфічнага фонду СССР. У складзе студыі прафесіянальныя кінематаграфісты, якія, выйшаўшы з сістэмы дзяржаўнага кінематографа, вядуць свае справы самастойна.

Студыя "Грамада" разам з кінапраектамі ўдзельнічае ў развіцці соцыуму сучаснага чалавека: у арганізацыі культурных цэнтраў, акцыі "Дзеці Чарнобыля", у праграмах адраджэння традыцыйных нацыянальных рамёстваў, выдавецкай дзейнасці, заснаванні кіналіцэя.

Студыя "Грамада" мае дзелавыя кантакты з кінематаграфістамі за мяжой і гатова садзейнічаць з дапамогай кіно развіццю нацыянальнай культуры ў краінах пражывання беларускай дыяспары.

Галоўную сваю задачу бачым у тым, каб не паддавацца модзе, не займацца эксплуатацыяй "забаронных тэм" і будаваць на гэтым касавую палітыку. Людзі як цягнуліся, так і будуць цягнуцца да кіно змястоўнага, жанрава вельмі рознага, але багатага і цікавага па думцы.

*— Што парадзіла рух незалежнага кіно? Сёння ж побач з вамі працуюць студыі: НС, Арцель-Ф, АБЦ, АРД--фільм...*

— Прычын многа. Роўна столькі, колькі існуе ў мастацтве маральных і эстэтычных установак. Але галоўная — набыццё творчай свабоды, права на ўласнае бачанне і разуменне жыцця.

Хаця не абышлося без крайнасцей перабудовы, якая пакінула кінематаграфістаў усёй краіны без сродкаў не толькі для творчасці, але і для існавання... Нам перасталі ўстаўляць палкі ў колы, праўда, колы зрабілі квадратнымі, назваўшы гэта "самафінансаваннем".

*— Тады як жа вам удаецца здымаць фільмы? Кінавытворчасць жа патрабуе сродкаў, і немалых...*

— Хацелася б сказаць добрыя словы ў адрас кіраўнікоў "Мікабанка", у асобе якіх студыя сустрэла людзей не толькі прафесіянальных, але і неабыякавых да лёсу беларускай культуры. Таму што менавіта "Мікабанк" у момант станаўлення незалежных студый знайшоў магчымасць падтрымаць іх. Некаторыя прадпрыемствы Мінска выступаюць у якасці спонсараў. Гэта сведчыць аб тым, што ў грамадстве паступова расце разуменне ролі і значэння феномена культуры. Студыя самастойна арандуе тэхнічную базу, займаецца маркетынгам, рэкламай, рэалізацыяй фільмаў. Злучаць у адно грубыя эканамічныя фактары і дастаткова тонкую матэрыю мастацтва заўсёды нялёгка і тым больш ва ўмовах, калі выходзяць са строю адміністрацыйныя механізмы, а рыначныя адносіны, відаць, не хутка набудуць цывілізаваныя формы...

*— Як выжыць кінематографу сёння? Тым больш, што становішча нацыянальнага кіно яшчэ больш складанае?*

— Сёння нацыянальныя, палітычныя і эстэтычныя ідэалы беларускага кіно заменены эканамічнай мэтазгоднасцю. Таму як ніколі важна выступіць адзіным фронтам супраць знішчэння нацыянальнай культуры "рукастымі дзялкамі" з боку. Зрэшты, не толькі "дзялкі", але і пракатныя мітрафаны, якія запоўнілі экран траянскімі канямі Галівуда.

Галоўная задача дня — кансалідацыя ўсіх здаровых кінематаграфічных сіл у адзінай грамадска-дзяржаўнай асацыяцыі, якая возьме на сябе абарону рэспубліканскага рынку кіно і зможа процістаяць "мафіі дзялкоў і мітрафанаў", адстойваючы інтарэсы кожнага фільма, кожнай студыі, кожнага кінематаграфіста. І тут нам не абысціся без дапамогі ўрада.

*— Але ж гэта запатрабуе вялікіх бюджэтных асігнаванняў?*

— Для выхаду беларускага кіно з крызісу, маральнага і тэхнічнага, бюджэтных сродкаў усё роўна не хопіць. Зарабляць мы павінны самі, не зніжаючы свайго ўзроўню, не разбэшчваючы гледача.

*— Як гэта магчыма?*

— Развіваючы камерцыйную дзейнасць вакол кіно. І ва ўрад мы павінны звяртацца не па грошы, а па правы!

Неабходна прыняць рэспубліканскі закон аб кіно, гэта значыць забяспечыць рэспубліканскаму кінематографу такія творчыя, эканамічныя і арганізацыйна-прававыя ўмовы, якія з'явіліся б трывалым фундаментам росту па-сапраўднаму нацыянальнага кіно.

Закон павінен замацаваць прыярытэт беларускіх студый на паслугі. Для пераўзбраення тэхнічнай базы мы павінны атрымаць часовы дазвол на бартэрныя здзелкі.

Неабходна таксама стварыць банк развіцця і рэканструкцыі беларускага кінематографа. Гэтая акалічнасць дазволіць развіць вакол яго сур'ёзную камерцыйную дзейнасць. Неабходна падумаць аб стварэнні рэспубліканскага прафсаюза творчых работнікаў на базе творчых саюзаў нашай рэспублікі, які возьме на сябе сацыяльную абарону людзей беларускай культуры ў такім няпростым сённяшнім жыцці.

Адно з ключавых палажэнняў Закона аб кіно — гэта падатковыя льготы, таму што яны, льготы, зробяць не толькі прэстыжнымі грамадзянскія намеры нашых мецэнатаў, але і выгаднымі. Казна недаатрымае частку сродкаў, але ўрад рэспублікі не будзе ў чарговы раз, а гэта паўтараецца шматразова, ліхаманкава шукаць грошы на тую ці іншую карціну. Вызначаючы [illegible] гэтым, каму з мастакоў аддаць [illegible]вагу. Хто больш нацыянальны? [illegible]уваш, які здымае Бураўкіна, ці беларус, які здымае Шэкспіра?!

Прадстаўнікі незалежнага кіно не чакаюць лёгкага жыцця. Іх абступае мноства праблем. Адстаяць інтарэсы нацыян[illegible]нага кінематографа, задаволіць [illegible]лівыя запатрабаванні гледачоў, [illegible]рымаць жорсткі прэсінг саюзнага пракату. Не быць "знесенымі ветрам"! З гэтымі задачамі не справіцца ў адзіночку, і сімвалічна, што беларуская студыя сацыяльнага фільма выбрала сабе імя "Грамада". У гэтай назве перш за ўсё адбілася імкненне да аб'яднання людзей мастацтва. "Грамада" адкрыта для ўсіх, хто падзяляе ідэі нацыянальнага адраджэння і сваёй творчасцю сцвярджае ідэі гуманізму.

Студыя гатова садзейнічаць рэалізацыі творчай асобы ў кінематографе, стварэнню аптымальных умоў кінавытворчасці, павышэнню канкурэнтаздольнасці нацыянальных фільмаў на ўнутраным і замежным рынках.

*— Вы сказалі: "...падзяляе ідэі нацыянальнага адраджэння..." Што пад гэтым трэба разумець?*

— Духоўна распраміць нацыю — гэтая мэта натхняе ўсіх дзеячаў беларускага мастацтва. Вы пытаеце, што можа зрабіць для гэтага наша кіно? Мне думаецца, што нам трэба будзе працаваць у трох напрамках. Па-першае, неабходна аднавіць гістарычную памяць народа. На жаль, беларусы толькі фрагментарна ведаюць сваю гісторыю. На працягу дзесяцігоддзяў казённыя псеўдагісторыкі прэпаравалі і замоўчвалі факты, вырывалі з жывой тканкі народнага лёсу многія эпахальныя імёны і падзеі. Мы абавязаны помніць, што Беларусь заўсёды знаходзілася на перакрыжаванні вялікай еўрапейскай палітыкі, у эпіцэнтры ўзаемадзеяння культур, на вастрыі ідэйных і рэлігійных шуканняў чалавецтва. Мы прайшлі трагічны, але слаўны шлях, — слаўны хаця б тым, што выстаялі і захаваліся як нацыя ў крывавым віры войнаў і рэвалюцый. Кінематограф разам з літаратурай можа і павінен аднавіць страчаныя вехі... Па-другое, трэба пераадолець навязаную нам "правінцыяльнасць" мыслення. Мы ў стане абмяркоўваць і вырашаць самыя складаныя праблемы грамадскага быцця. Не выпадкова "Грамада" фарміруецца як студыя сацыяльнага фільма. На пазіцыі па-грамадзянску актыўнага мастацтва цяпер выходзяць усе майстры культуры. Па-трэцяе, трэба пераадолець "сарамлівасць" і смела далучацца да сусветных духоўных каштоўнасцей.

*("Советская Белоруссия").*



# ФЕСТЫВАЛЬ «ГЛЫБОКІЯ КРЫНІЦЫ»

**У пагодную нядзелю ў сярэдзіне чэрвеня ў Мінску адбыўся абласны фестываль народнай творчасці "Глыбокія крыніцы". А можна было б назваць яго "Чыстыя крыніцы". Традыцыйныя вызначэнні і дакладны сэнс. У народнага мастацтва, як ні ў якога іншаг[illegible]дзвычай глыбокія і надзіва чыстыя вытокі. Яно прабілася да нас з-пад камянёў і завалаў, што нагрувасцілі вякі, пранесла свае звычаі і святочную прыгажосць праз ліхалецці і перашкоды.**

**У сталіцу ж у той дзень прыехала амаль паўсотні розных самадзейных калектываў — танцавальных, харавых, музычных — і асобных выканаўцаў, якія цешылі гледачоў і слухачоў у Траецкім прадмесці, у парку імя Горкага, у скверы па-над Свіслаччу каля помніка Янку Купалу. Музыкі, спевакі і танцоры, а таксама народныя майстры, што прадавалі свае вырабы з гліны, дрэва і іншых традыцыйных матэрыялаў, прыехалі з Маладзечаншчыны, Стаўбцоўшчыны, Нясвіжшчыны, з Капыльшчыны... Адзін са старэйшых фальклорна-этнаграфічных калектываў — ансамбль "Лявоніха" з Бярэзінскага раёна. Аб'ездзіў ён ужо амаль усю краіну і ўсюды выступаў з поспехам. Пра яго знята некалькі дакументальных стужак. Удзельніцы ж яго, як і ўсіх іншых самадзейных калектываў, — даяркі, хатнія гаспадыні, пенсіянеркі, настаўнікі. Адным словам сельскія працаўнікі, якія жывуць у вёсцы і не адрываюцца ад сваіх каранёў, помняць пра свае вытокі, чэрпаюць у творчасці сілы і натхненне.**



**Хочацца верыць, што беларускае народнае мастацтва, як і беларуская мова, як і наша нацыянальная самасвядомасць, перажывае адраджэнне. Праўда, народнай творчасці пашанцавала, можа, крышку больш, чым мове, бо хіба можна забараніць вясковай жанчыне спяваць сыночку калыханку так, як спявала ёй яе маці, бабуля, а бабулі — яе маці...**

**Пасля апошняй вайны, як трохі разбагацелі, вяскоўцы надзявалі толькі крамнае, але капрызлівая мода вярнула прэстыжнасць і каштоўнасць народным строям, нацыянальным ручнікам і посцілкам, якія пачалі цаніцца і далёка за мяжой, заўсёды сведчылі пра талент, здольнасці і добрую фантазію іх стваральнікаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: адшумела народнае свята ў Мінску.**

**Фота Ю. ЗАХАРАВА.**



## ШТО ПРЫНОСІЦЬ ШКОДУ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ

# ГРАМЗАПІС — ГЭТА СУР'ЁЗНА!

Ніпто іншае не спрыяе так стварэнню нацыянальнага музычна-акустычнага асяроддзя, як грамзапіс. Без яго немагчыма паўнацэннае нацыянальнае радыёвяшчанне і тэлебачанне. Грамзапіс, між іншым, з'яўляецца і экспартным таварам, сродкам уключэння ў сусветны камунікатыўны працэс, а, галоўнае, сродкам перадачы здабыткаў нацыянальнай музычнай культуры нашчадкам.

Для сучаснікаў грамзапіс — крыніца новых эмоцый, ведаў, крокаў да нацыянальнай свядомасці. Апошняя акалічнасць прымушае больш пільна прыгледзецца да праблем і перспектыў нацыянальнага грамзапісу на Беларусі.

Каму са свядомых беларусаў з усіх канцоў свету не захацелася б паставіць на свой прайгравальнік і нанава праслухаць плыты Міхася Забэйды-Суміцкага, Данчыка, "Полацкі сшытак"... Дыскі названых выканаўцаў ужо выдадзены ў ЗША, Польшчы. Але — парадокс! Калі нашыя замежныя суайчыннікі маюць гэтыя дыскі, то ў нас, на Радзіме, іх няма.

Чаму так адбываецца? Каб коратка растлумачыць становішча, трэба вярнуцца ў 1961 год. За гучнасцю колішніх спраў зусім не заўважаным застаўся перанос адзінага на Беларусі завода грамзапісу ў Маскву. Так фірма "Мелодия" вырашыла палепшыць сваю работу, а Беларусь назаўсёды страціла "грамафонны суверэнітэт".

Сёння ж з-за манапольнага становішча фірмы "Мелодия" Беларусь не мае свайго грамзапісу, у нашых крамах няма нават раздзела "Беларуская музыка", не вядзецца шырокая прапаганда нацыянальнай музыкі і фанаграфіі.

Несправядліва вінаваціць у гэтым толькі дырэктара Беларускага дома грампласцінак (БДГ) В. Тоўсціка. З'яўляючыся прадуктам свайго часу, Валерый Барысавіч толькі зараз пачынае ўсведамляць каштоўнасць беларускай музыкі для Сусвету. А чым яшчэ растлумачыць той факт, што за мінулыя гады выдадзены толькі адзінкі назваў беларусікі: "Вершы М. Багдановіча", "Свята", "Мроя", "Хіт-парад БМ"?..

Яшчэ большая драма — згубленыя для нашчадкаў таленавітыя музычныя творы, нечае выканаўчае майстэрства і, як вынік, нечыя закарэлыя ад нацыянальнага нігілізму душы. І гэта пры поўных прылаўках нашых грамафонных крам!

Але час мяняецца не толькі для людзей "старой загартоўкі", ён мяняе і нашыя ўяўленні. Сёння побач з дзяржаўным мы пазнаём і нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг, думаем пра выпуск сваёй паштовай маркі, радуемся з нагоды выхаду нацыянальных, на беларускай мове паштовак, каляндароў і г. д. А ці будуць нейкія станоўчыя зрухі ў беларускім грамзапісе?

Першае, што хочацца адзначыць, гэта прызнанне адказнымі асобамі Міністэрства культуры рэспублікі таго факта, што "грамзапіс — асноўны прадукт дзейнасці міністэрства"! Калі так, дык трэба чакаць змены прыярытэтаў. І яны, канешне, мяняюцца.

Сведчанне гэтага — прыняты і зацверджаны міністэрствам план выпуску грамафонных плыт на 1991—1993 гады. Вось толькі некаторыя раздзелы з яго: "Беларускі фальклор — дзецям" (3 плыты), "З гісторыі беларускай музычнай культуры" (7 плыт), "Беларуская бардаўская песня" (6 плыт) і шмат іншага, агульнай колькасцю да 80 найменняў плыт.

Сярод іх шмат унікальных запісаў: "Выканаўчае майстэрства М. Забэйды-Суміцкага", "Беларускія аўтэнтычныя казкі для дзяцей", "Тэатральная музыка Беларусі XVIII ст.", плыты з песнямі В. Цярэшчанкі, Данчыка, опера У. Солтана "Дзікае паляванне караля Стаха". Самае галоўнае, што хацелася б адзначыць у плане беларускага грамз[illegible], дык гэта яго асветніцка-а[illegible]а-цыйную накіраванасць, накіраванасць на прапаганду лепшых беларускамоўных твораў кампазітараў і выканаўцаў рэспублікі.

Але добры план так м[illegible] і застацца планам, калі [illegible]а забяспечыць хуткі камерцыйны поспех. Такое сёння патрабаванне кіраўніцтва фірмы "Мелодия". Між іншым, гэтая акалічнасць, здаецца, і трывожыць дырэктара БДГ. Логіка тут прыблізна такая: "Які тыраж заказаць на фірме? 3 тысячы альбо 5 тысяч? А што, калі "не пойдзе", не будзе попыту?.. На беларускай жа мове... Ці ўвогуле не заказваць, адмовіцца?"

За многія гады існавання БДГ, які напрамую падпарадкаваны Маскве і фірме "Мелодия", гэтая логіка прынесла немалую шкоду беларускай фанаграфіі, нашай культуры. Але гэтая "логіка" сёння падказвае кіраўніцтву БДГ і змяненне рэпертуарнай палітыкі ў галіне беларусікі. У рэспубліцы ж на двары Адраджэнне! Ігнараваць яго — значыць ігнараваць культуру цэлай нацыі. Гэта, канешне, небяспечна — "цёпленькае" месца страціць можна. А тут яшчэ і падпісанне пагаднення аб супрацоўніцтва паміж Мінкультамі СССР і Беларусі.

Для гэтага, здаецца, і спатрэбіўся чарговы "манеўр" кіраўніцтва БДГ. Сутнасць яго ў тым, каб дамагчыся ад Міністэрства культуры Беларусі стварэння пад сваёй апекай аддзела па распаўсюджванню беларускіх плыт і, такім чынам, застрахавацца ад вынікаў магчымых камерцыйных "праколаў".

Ці дасць гэта магчымасць папоўніць нашу фанатэку новымі запісамі, пакуль невядома. Але Міністэрства культуры зацвердзіла вышэйпамянёны план, і кіраўніцтву БДГ прыйдзецца яго выконваць.

Што датычыцца магчымасцей поўнага распаўсюджвання тыражоў беларускіх плыт, то шмат надзей узнікае пры наладжванні супрацоўніцтва з Міністэрствам народнай адукацыі, школьнымі бібліятэкамі, фанатэкамі.

У Міністэрстве культуры Беларусі не хаваюць сваёй зацікаўленасці і ў супрацоўніцтве з замежнымі беларускімі культурнымі арганізацыямі, якія распаўсюджваюць запісы з беларусікай, з асобнымі нашымі суайчыннікамі за мяжой.

Тут надзея простая: калі знайшліся людзі, якія фінансавалі выпуск плыты Данчыка ў ЗША, калі ў Канадзе дзейнічае свая фірма "Пагоня-рэкардз", калі ва ўсім свеце вядуцца трансляцыі беларускіх радыёперадач, калі, адным словам, існуе зацікаўленасць беларускай музыкай сярод нашых замежных суродзічаў, дык чаму б не паспрабаваць задаволіць яе на належным узроўні? Зразумела, з фінансавай карысцю і для нашай культуры, і для беларускай эміграцыі. Ці марныя гэтыя спадзяванні, пакажа час...

Ну а каму з нас, беларусаў па абодва бакі акіяна, не захочацца яшчэ раз праслухаць плыты з запісамі "Духоўнай музыкі Беларусі XVII—XIX ст.", "Анталогію беларускага раманса", песні С. Сокалава-Воюша, "Бонды", "Уліса", "Мясцовага часу"?..

Усё гэта, канешне, можа спрыяць поспеху нашых плыт, мінімальны тыраж якіх сёлета фірмай "Мелодия" раптоўна ўзняты да дзесяці тысяч асобнікаў. І тут ёсць добрыя прыклады — плыты "Пахвала Беларускім Святым", ансамбля "Свята". Паспрабуйце іх адшукаць у сталічных крамах, нягледзячы на паўторны тыраж...

...Круціцца чорны вінілавы дыск. З баразнак на яго люстэрку льецца чыстая беларуская песня, сыплюцца на сэрца гаючыя гукі. Колькі яшчэ чакаць, покуль знікнуць усе перашкоды на яе шляху да людзей?

**Анатоль МЯЛЬГУЙ.**




Вокладкі плыт беларускай музыкі.

Фота Г. КАЛЫШ.

## ПАДРЫХТАВАНЫ ЛЕКСІЧНЫ АТЛАС

У выніку дваццацігадовых даследаванняў мясцовых гаворак раўнамерна па ўсёй Беларусі ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР створаны Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Для атласа абследаваны каля 4 000 канкрэтных назваў розных прадметаў, прыкмет, працэсаў, з'яў жывой і нежывой прыроды, вытворчасці, матэрыяльнай і духоўнай культуры мясцовага насельніцтва ў 150 вёсках рэспублікі, у тым ліку 29 вёсках, якія пацярпелі ў час аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Па кожнай канкрэтнай назве складзена асобная карта, да якой прыкладваюцца каментарыі і спіс атрыманых адказаў з усіх абследаваных вёсак.

У завершаным выглядзе атлас уключае каля 2 000 лінгвістычных карт, падзеленых па сваёй тэматыцы на пяць тамоў (аб'ём кожнага тома — каля 80 аўтарскіх лістоў), і аб'ядноўвае фактычна звыш 200 тысяч слоўных адзінак. Гэта адна з самых буйных скарбонак народнага слоўнікавага багацця беларускай мовы, важкі ўклад у агульнаславянскі фонд даследаванняў традыцыйнай народнай культуры.

## ПАРАД ДЫКСІЛЕНДАЎ

Да вядомых ва ўсім свеце джазавых "сталіц" Сакрамента (ЗША) і Дрэздэна (Германія), здаецца, прыбавілася трэцяя — Віцебск. "Парад дыксілендаў", што закончыўся тут, сабраў вядучыя групы з Германіі, Калінінграда, Данецка, Растова-на-Доне, Мінска, Цюмені, іншых гарадоў краіны.

Хаця ў Віцебску няма сваёй джазавай школы, ён мае даўнія джазавыя традыцыі: да 1988 года тут праводзіліся фестывалі "Музычная восень". Аднак сёлетні "парад" перасягнуў сваіх папярэднікаў ва ўсіх адносінах — па разнастайнасці праграм, колькасці і ўзроўню выканаўцаў.

— Выдатна ўжо тое, што такі фестываль мог адбыцца ў наш нялёгкі час, калі людзі больш ахвотна ідуць на плошчу, чым у канцэртныя залы, — гаворыць Уладзімір Феертаг, арганізатар фестывалю.

Музычны трамвай і параход, бясплатны канцэрт у амфітэатры, віртуозная іграДзяржаўнага канцэртнага аркестра БССР пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга збіралі не толькі прыхільнікаў джазавай музыкі, але і тых, хто чуў яе мелодыі ўпершыню.

## НАШЫ Ў ЛЕНІНГРАДЗЕ

У Ленінградзе створана асацыяцыя беларусазнаўцаў, якая мае на мэце даследаванне культурнай спадчыны беларусаў, спрыянне сувязям Беларусі і Ленінграда. Членамі асацыяцыі сталі вучоныя Ленінградскага універсітэта, Інстытута культуры, Інстытута этналогіі і антрапалогіі, Музея этнаграфіі народаў СССР, Публічнай бібліятэкі. Літаратары прадстаўлены А. Кірвелем, які піша па-беларуску.

Старшынёй асацыяцыі выбраны доктар гістарычных навук, прафесар А. Мыльнікаў, яго намеснік — кандыдат філалогіі М. Нікалаеў. Першым мерапрыемствам стануць чытанні, прысвечаныя памяці заснавальніка сучаснага беларусазнаўства акадэміка Яўхіма Карскага.

*СПАДЧЫНА*

# ЛЯ ВЫТОКАЎ ВІЛІІ

Сярод лясоў і пакрытых ядлоўцам і ледніковымі валунамі пагоркаў азёрнага краю вёску Вілейку знойдзеш не адразу. Трэба з дарогі Бягомль — Докшыцы збочыць на Бярозкі, і, толькі праехаўшы праз лес кіламетраў дзесяць і мінуўшы вёску Вітунчыцы, трапіш у даліну, дзе бярэ пачатак Вілія... Ланцужок хат, сілуэт драўлянай двухвежавай культавай пабудовы, даўно закінутай. Сумна глядзяць цёмныя адтуліны пустых акон, даўно няма на вежах крыжоў і медных званоў...

Пажоўклыя старонкі дакументаў сведчаць, што ў XVI — XVII стагоддзях вёска належала графам Пацам. Фундушны запіс ад 23 жніўня 1707 года сведчыць, што граф Мікалай Андрэй Пац выдзеліў царкве дзве з паловай валокі зямлі і іншыя ўгоддзі. Відаць, тая царква стаяла ажно з XVI стагоддзя. Інвентар ад 23 красавіка 1793 года сведчыць, што Вілейка адносілася да маёнтка Кржчэнішкі Віленскага ваяводства. Налічвала вёска чатырнаццаць двароў, якія належалі чатыром шляхціцам і простым чыншавікам (з якіх адзін быў русак, а адзін яўрэй), што арандавалі двары ў маёнтку за тры тысячы пяцьдзесят восем злотых падымнага і чопавага, моргавага, сенажатнага, млынарнага і іншых падаткаў.

У хуткім часе вёска пачынае належаць віленскаму жаночаму кляштару Візітак, аб чым сведчыць інвентар ад 20 мая 1797 года. У гэты час Вілейка налічвала дваццаць тры двары, сто два чалавекі мужчынскага і семдзесят пяць чалавек жаночага насельніцтва, якія мелі дваццаць сем коней, сорак чатыры валы, восем вулляў пчол, сорак кароў, дваццаць чатыры цяляці, сто дзесяць авечак, пяцьдзесят восем коз і семдзесят дзве свінні. У вёсцы меліся царква, карчма, млын. Штогадовыя павіннасці складалі трыццаць сем мужчынскіх і трыццаць тры жаночыя дні прыгону. У лік падаткаў трэба было здаць трыццаць тры курыцы, трыста семдзесят тры яйкі, дваццаць дзве капы грыбоў, дваццаць бочак і дзве асьміны жыта, заплаціць чыншу восемдзесят пяць злотых.

Акрамя Вілейкі, ва ўладанне ўваходзілі засценкі Крамовічы, Велькаполле, Замойск, Краснік, Вуглы, Гарадзішча, вёска Воўча, засценкі Каменка, Толча, Філіпоўшчызна. Вёска Воўча мела дваццаць сем двароў, царкву, млын.

Аб далейшым лёсе вёскі дакументы паведамляюць ужо ў другой палове XIX стагоддзя. Па даных спісу валасцей, сельскіх грамадстваў і паселішчаў Мінскай губерні за 1870 год, Вілейка належала да Вітунчыцкай воласці Барысаўскага павета, налічвала дзевяноста аднаго жыхара. Вёска пазначана як былая казённая, з былымі дзяржаўнымі сялянамі, адкуль зразумела, што ўладанне ў Візітак было канфіскавана. Статыстычны даведнік "Воласці і важнейшыя паселішчы Еўрапейскай Расіі" за 1886 год паведамляе, што к гэтаму часу ў вёсцы мелася дваццаць два двары, сто восемдзесят жыхароў, царкоўнапрыходская школа.

Слоўнік геаграфічных земляў польскіх, 1893 года выдання, упамінае пра Паца і Візітак. На гэты час вёска казённая, з лясніцтвам. Маёнтак уключаў, акрамя Вілейкі, дзевяць малых вёсак і налічваў 378 валокаў зямлі. Маёнтак (фальварак Вілейка) знаходзіўся на поўдзень ад вёскі, за чатыры вярсты, каля рэчкі Амнішоўкі, левага прытока Віліі. Пазначана Праабражэнская царква ў Вілейцы і гмінная школа, капліца Нараджэння Ма-

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ЛЯ ВЫТОКАЎ ВІЛІІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

рыі ў Воўчы, таксама фундацыі Візітак з 1790 года. Згодна статыстычным даным па Мінскай губерні за 1909 год, Вілейка ўжо мела 72 двары і 529 жыхароў. Непадалёку былі вёска Вілейка Новая (дваццаць чатыры двары) і з такой жа назвай хутар.

Складаны і поўны драматызму лёс выпаў на долю вілейскай царквы. Гісторыя яе разбіваецца на тры этапы. Першы — ад XVI стагоддзя і да 1818 года, калі тут быў касцёл, спачатку пры Пацах, а пазней пры Візітках. Далей дакументы сведчаць, што будынак, які захаваўся да нашага часу, узведзены ў 1818 годзе (другі этап). Што здарылася з папярэднім збудаваннем, невядома: ці, як гэта звычайна было, згарэў, ці быў разабраны з-за старасці.

Новы будынак 1818 года таксама быў узведзены Візіткамі і быў касцёлам. Трэці этап пачаўся з 1860 года. На гэты час уладанні Візітак перайшлі ў казну, і на дзяржаўную субсідыю ў тысяча сто дваццаць два рублі ў выніку капітальнага рамонту былы касцёл быў пераабсталяваны ў Праабражэнскую царкву. Ажыццяўлялася царская праграма замены каталіцызму праваслаўем. "...Драўляныя, на каменным падмурку, у выглядзе працяглага прамавугольніка, з адным невялічкім купалам над сярэдзінай і двума ў франтоннай частцы; страха гонтавая... страха і сцены пафарбаваны алейнаю фарбаю... Столь падшыта дошкамі, падлога драўляная, сцены пабелены... Саляя ўзнімаецца на адну прыступку, над ёй уладкаваны і кліpac. Іканастас новага вырабу пафарбаваны ў белы колер, з пазалочанымі карнізамі, рамамі і разьбою, складаецца з адзінаццаці ікон... У алтары, на горным месцы... ікона маці боскай... ахвяравана ў гэтую царкву яе будаўнікамі, віленскімі манахінямі — Візіткамі, імі ж зроблена для яе і металічная разпалочаная рыза", — паведамляецца ў апісанні царквы і прыходаў Мінскай епархіі. З кашто́ўнага начыння быў набор літургічных пасудзін, тры евангеллі... Сярод дакументаў захавалася копія граматы Мікалая-Андрэя Паца на свабодны памол хлеба па суботах у мясцовым млыне. У адной з франтонных веж знаходзілася званіца і вісела чатыры званы ў пяць, два, адзін пуд і маленькі ў дванаццаць фунтаў. Побач з царквой былі могілкі, абнесеныя драўлянай агароджай. У склад прыходу ўваходзіла шаснаццаць паселішчаў. Прыхаджан было шэсцьсот пяцьдзесят мужчын і шэсцьсот восемдзесят чатыры жынчыны. "Усе яны належалі да сялянскага саслоўя і займаліся выключна хлебаробствам". Пры царкве меліся народнае вучылішча. Згодна памятнай кніжкі Мінскай епархіі за 1887 год, вучылішча, відаць, было пераўтворана ў 1863 годзе ў сельскую прыходскую школу, навучэнцамі якой былі дваццаць чатыры хлопчыкі. Колькасць прыхаджан у 1887 годзе складала семсот семдзесят чатыры мужчыны і восемсот трыццаць пяць жанчын з шаснаццаці вёсак. У 1901 годзе гэта колькасць складала адпаведна тысячу дзвесце дваццаць адзін і тысячу дзвесце трыццаць два чалавекі. Насельніцтва Вілейкі і навакольных паселішчаў паступова расло. У канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў землі вілейскай царквы складалі амаль восемдзесят восем дзесяцін зямлі (сядзібнай, раллі, сенажаці і лесу). Атрыманы на пачатку XVIII стагоддзя млын працягваў працаваць, за што з прытчу спаганялася ў казну штогод сто пяцьдзесят рублёў.

У канцы XIX пачатку XX стагоддзяў свяшчэннікам вілейскай царквы быў Акім Андрыеўскі, у якога ў Мінску меўся дом на Паўночным завулку, 18. Дом захаваўся ў выдатным стане, уражвае разьбяным ганкам, цудоўнымі кафлянымі печкамі, антыкварнай мэбляй. Гэта каштоўны помнік драўлянай архітэктуры горада.

Заняпала царква ў трыццатыя гады і была зачынена. Крыжы скінулі, званы невядома куды звезлі, абразы спалілі ці разрабавалі. Але моцная пабудова, спрацаваная з якаснай драўніны выдатнымі майстрамі, упарта супраціўляецца бязлітаснаму часу. Абадралі пацiху шалёўку, прагнілі дах, пахіліліся макаўкі веж. Але і зараз выдатны помнік драўлянай архітэктуры дамінуе ў сілуэце вёскі, маляўніча спалучаецца з лесам, што ўздымаецца за рэчкай, палямі, узгоркамі, схіламі. Узнятыя да нябёсаў драўляныя вежы вымушаюць звярнуць погляд з глыбіні сівых стагоддзяў да часу будучых. Захаваўся здымак царквы, зроблены ў пачатку нашага стагоддзя аматарам архітэктурнай спадчыны Базункевічам. Відаць прыгожыя дахі на макаўках, агароджа з брамай, старыя бярозы навокал.

Ёсць у вёсцы Вілейка і яшчэ адно месца, дзе зноў нібы трапляеш у далёкае мінулас. Гэта старыя могілкі. Заімшэлыя магутныя старыя крыжы, кавальскія крыжыкі на каменным п'едэстале і раптам у кустоўі задзіраванелыя камяні з выявай крыжа мальтыйскага ўзору. А вось сівы камень з ледзь прыкметнай выявай "елачкі", падобнай да старажытнага індаеўрапейскага "дрэва жыцця"... Загадкі старажытнасці, што ўзыходзяць да светапогляду і культуры Пацаў, Візітак...

Не дзірванеюць сцежкі дзядоў на роднай зямлі.

**Аляксандр ЛАКАТКО, кандыдат гістарычных навук.**

# ЦІШЫ БОР НЕ ЗНАЕ

Словы У. КАРЫЗНЫ Музыка Ю. СЕМЯНЯКІ




**Бор красой зялёнай
У раку глядзіцца,
А ў тым бору сонца
Чыстае садзіцца,
І сініцы кружаць
Хмельнымі кругамі,
Лісце абдымаюць
Цёплымі крыламі.**

**Часам выпадкова
Вецер узаўецца,
Бор, нібыта порах,
Шумам узарвецца!**

**Цішы не бывае,
Цішы бор не знае,
Бо такое сэрца,
Бо душа такая...**

**Я не ў госці к бору,
А дамой прыходжу,
Для душы стамлёнай
Шмат чаго знаходжу.
Сіла векавая
Сэрцам спазнаецца,
Як, сама не знаю,
Мне перадаецца.**

## *ЛЕТНІЯ ЭЦЮДЫ*





**Лета чакаем. Да лета рыхтуемся. А калі яно прыходзіць, раптам разгубліваемся: і білетаў на транспарт не дастаць для паездкі на поўдзень, і са сталоўкай там праблемы: цэны любую кішэню спустошаць. Іншаму ўрачы тысячу хвароб знойдуць, каб забараніць адпачынак пад гарачым сонцам. ...Можа не трэба ўсіх гэтых хваляванняў, турбот? Хіба ж горш адпачнеш дома, у Беларусі?! Тут табе і крынічныя рэкі (не ўсе трапілі пад чарнобыльскі смерч) — купайся, лаві рыбу, і цяністыя лясы — збірай суніцы ці чарніцы, грыбы. Тых, хто любіць падарожжы, зацікавяць гістарычныя помнікі. Ды і з білетамі на транспарт у Беларусі праблем амаль не існуе.**

**НА ЗДЫМКАХ: смачная, халодная вада ў вясковай студні. Пасля падарожжа не адзін кубак вып'еш; любімае месца адпачынку дзятвы — парк Чэлюскінцаў у Мінску. Адсюль, з панарамнага кола, бачна ледзь не паўсталіцы.**

**Фота А. ВАЛЯНЦІНАВА.**

## *СПОРТ*

Сенсацыя! Так расцаніла спартыўная прэса перамогу савецкіх баскетбалістак на чэмпіянаце Еўропы ў Ізраілі. Маладая каманда, капітанам якой з'яўляецца мінчанка Ірына Сумнікава, у фінале абыграла югаслававак з лікам 97:84.

Перад знакамітым Уімблдонскім тэнісным турнірам праходзяць адборачныя матчы. Але мінчанка Наталля Зверава, як адна з мацнейшых у сусветнай эліце, ад іх вызвалена. І тым не менш наша спартсменка прымала ўдзел у некалькіх міжнародных сустрэчах. Найбольш удала выступіла Наталля ў англійскім горадзе Бірмінгеме, дзе заняла другое месца.

У нямецкім горадзе Котбусе завяршыўся турнір мацнейшых бадмінтаністаў Еўропы. Выдатна выступілі тут савецкія спартсмены: амаль усе яны заваявалі прызавыя месцы. У жаночым адзіночным разрадзе беларуска Улада Чарняўская ўступіла толькі масквічцы Алене Рыбкінай.

Цікавы футбольны турнір прайшоў у Швецыі. Чатыры каманды — гаспадароў поля, СССР, Італіі і Даніі — вялі барацьбу за перамогу. У фінале італьянцы толькі па пенальці перамаглі нашых спартсменаў, сярод якіх быў і мінчанін Сяргей Алейнікаў.

Са спаборніцтваў у нашай краіне найбольшую ўвагу прыцягваюць старты юбілейнай Х летняй Спартакіяды народаў СССР.

Коратка аб выступленні беларускіх спартсменаў. Самба: жанчыны — другія, мужчыны — першыя. Барацьба вольная: другое агульна-каманднае месца. Плаванне — пятае месца.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС**

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Заказ № 976.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12